№ 61 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Бе-аруская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 61 (257). Год III. Вільня, 6 жніўня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 5 жніўня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: На фронці між Іпрам і Мондід'е — ажыўленая артылерыйская бітва. У Фландрыі, на поўначы ад Альбэр і наабапал Соммы адбіты атакі ворагаў. На поўначы ад Мондід'е без націска ворагаў мы з заходняга берагу Авр і с патоку Дон узялі назад сваё войска за гэтые адрэзкі. Пры Мондід'е ў дробных стычках узяты палонные.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Пры Вэль агонь узмацаваўся. Удачные стычкі на паўдня ад Конт, на заходзі ад Рэймса. Нашы ар'ергарды згодне з загадам адыйшліся на паўночны бераг Бэль.

*Фронт Гальвіца і Альбрэхта Вюртэмбэрскага*: На заходзі ад Мозэля, ў сярэдніх і верхніх Вогезах адбіты варожые наступленьні. У Эльзасе мы ўзялі палонных.

---

ЛОНДОН. Урадовая газэта ў Токіо з 2 жніўня наказывае аб намэчанай высылцы саюзьніцкіх войск у Владывасток. Амэрыка прэдлажыла недаўна Японіі хутчэй пасльць войска дзеля помачы чэха-славаком у Сібіры. Японскі ўрад яшчэ раз адзначыў, што ён не мешаецца ў унутрэные справы Расеі. С прычыны небаспекі ў Сібіры чэха-славаком ад немцаў і аўстрыякаў саюзьнікі не маглі спакойна глядзець на невыгодны для іх ход прыпадкаў. Часьць іх войск ужо атрымала загад выехаць у Владывасток. Ня гледзячы на ўчасьце ў гэтай экспэдыцыі і японцаў, Японія і надалей хочэ паддзержываць прыязные зносіны з Расеей. Дабіўшыся свае мэты, усе японскіе войскі зара пакінуць расейскіе граніцы, і сувэрэннасьць Расеі як с палітычнага так і з ваеннага пагляду ня будзе закранута.

ЖЭНЕВА. Прыехаўшые з Архангельска ў Кандалакск саюзьніцкіе дыплёматы знаходзяцца пад апекай англіцкіх і амэрыканскіх войск.

РЫГА. Глаўнакамандуючый 8 арміі выдаў загад, паводлуг катарага расейскіе рублі ў Эстляндыі і Ліфляндыі не прынімаюць ў заплату. Нікога нельга прымушаць плаціць або атрымліваць плату ў рас. рублёх. Цэны ўселякіх тавараў павінны быць паказаны ў марках. Старые даўгі ў рублёх павінны быць выплачываны маркамі па курсе 1 м.=1 руб. Старые прэтэнсіі па закладным, арэнднй плаце, рэнце, пэнсіям і т. п. выплачываюцца маркамі па курсе 1 руб.=1 мар. 50 фэн.

МАСКВА (П.Т.А.). Дзеля арганізацыі афіцэрскага корпуса з работнікаў былі адкрыты шмат афіцэрскіх 4-месячных курсаў. Вучні іх у жніўні займуць ужо значнае чысло афіцэрскіх месц, як прэдстаўнікі работнікаў. У акадэмію генэральнага штабу з 8-месячным курсам прынімаюць таксама толькі людзей, давёўшых сваю вернасьць савецкаму ўраду.

БЭРЛІН. Цела фэльдмаршалка Эйхгорна перавезено ў поўнай цішы ў сьвятыню ў парку Інвалідаў, дзе яно будзе пахаронено ў аўторак паабедзі.

ЦЮРЫХ. Прэдстаўнік Лівэрпуля ў англіцкай ніжняй палаце апрацаваў плян тунэля, які мае злучыць Ірляндыю с Шотляндыей.

ШТОКГОЛЬМ. Быўшый дагэтуль у вастрозе ў Фінляндыі расейскі пасол пры аўстрыяцкім двары, Каменев, выпушчэн на волю.

ВАШЫНГТОН. Ваенны міністэр Бакэр падае ў амэрыканскую ніжнюю палату праект закона, паводлуг каторага ваенная павіннасьць абнімае мужчын ад 18 да 50 гадоў.

ВІНДАВА. Біржавы камітэт і біржавое таварыства атрымалі пазваленьне адкрыць нанова свае чыннасьці.

БУКАРЭШТ. Закон аб грамадзкіх правох для жыдоў, прайшоўшы праз сэнат, разгледаўся ў румынскім парлямэнце. 86 дэпутатаў падалі галасы за, 13—проціў. Закон, наагул, адпаведае вымогам букарэшцкай мірнай умовы, але шмат пашырае рамкі свае для асоб, якіе прынімаюць падданства.

БУКАРЭШТ. У дадатку да зямельнага закона заводзіцца павіннасьць паном і іх арэндаром здаваць часьць зямлі ў арэнду селянам.

Рэдакцыя „Гомана" просіць усе пісьмы, рукапісы да друку, карэспандэнцыі, газэты і т. п. пасылаць ёй **ТОЛЬКІ** па адрасу: **Віленская вул. 33, кв. 1.**

# Незалежная Беларусь.

**Мэморыал нямецкаму паслу пры ўкраінскім урадзе.**

25 красавіка с. г. беларуская дэлегацыя ў Кіеве падала нямецкаму паслу пры ўкраінскім урадзе мэморыал с подпісамі Александра Цьвікевіча, праф. В. Доўнара-Запольскага і д-ра Трэмповіча. У мэморыале паміж іншым кажыцца:

Праца беларускага народу над утварэньнем свайго ўраду с прычыны ваеннага часу магла выявіцца толькі пазьней, чым гэта было зроблено на Украіне. Але жаданьне арганізацыі незалежнага гасударственага арганізму заўсёды жыло ў беларускіх кіраўнічых партый і гэта тэндэнцыя заўсёды выяўлялася ў дамаганьнях народных мас. Пачуцьцё свае дзержаўнасьці заўсёды было глыбока заховано ў духоўным жыцьці беларусаў, бо яно асновано на іх мінуўшчыне, іх нацыянальнасьці, мове, іх аднародным эканамічным палажэньні. Не кажучы ўжо аб слаўнай дзержаўнай незалежнасьці ў старабытных часох, даволі напомніць, што ў сярэдніх вякох свае гісторыі Беларусь да 1569 году была незалежнай дзержавай пад літоўскай дынастыей, што ад 1569 году да XVIII сталецьця Беларусь станавіла фэдэрацыйную часьць Польскай рэчыпаспалітай, аднак у сваіх межах карыстала с сувэрэннасьці. Панаваньне Расеі не забіло ў беларусаў пачуцьця дзержаўнай самабытнасьці, і ў 1830 і 1863 гадох ня толькі інтэлігэнцыя, але і народные масы прынімалі ўчасьце ў паўстаньнях проці расейскага ўраду і бароліся за волю Бацькаўшчыны. Далейшые гады цяжкой няволі, праўда, зьнішчылі беларускую літэратуру і беларускую інтэлігэнцыю, але не здалелі зьнішчыць у народзе пачуцьця дзержаўнай самабытнасьці. Аб зьліцьці беларускіх народных мас с Расеей не магло быць гутаркі, між іншым, і с тае прычыны, што беларусы паводлуг свае культуры прыналежаць да заходня-эўропэйскіх народаў, а не да Усходу. Вышэйшые станы, каторые некалі былі даволі чысьлены, а цяпер растаялі ў народнай масе, карысталіся шырокімі конституцыйнымі правамі. Чысьленые месты мелі нямецкае мястовае права. С пагляду на нацыянальную гаспадарку наш край с сваімі 12 мільёнамі беларусаў ад прыроды ня лішне багаты,—аднак, мае добра разьвітую культурную гаспадарку лясную і зямельную. Наш край не знае голаду. У ім ёсьць эканамічна трывалае селянства, каторае гаспадарыць на зямлі на аснове прыватнай уласнасьці, вытворэнай гісторыей,—і пры гэтым працавітае селянства. Да нас заўсёды прывозілі шмат нямецкіх тавараў, і мы вывозілі многа сваіх тавараў праз балтыцкіе порты, асабліва дрэва, збожжэ, скуры і шмат іншых.

Наш народ сваей працавітасьцю дайшоў адноснага дабрабыту, ня гледзячы на ўвесь ціжар царскага панаваньня. Аб гэтым ціжары можна судзіць с таго, што наш край меў шмат менш школ, чымся іншые землі Расеі, ды ў ім не было ніводнае вышэйшае школы, што ад 1865 да 1905 году былі забаронены беларускіе друкі. І гэта затым, што царскі ўрад быў добра знаёмы з жаданьнем незалежнасьці, якое жыло глыбока ў нашым народзе.

Цяпер беларускае пытаньне насьпело, і ад нямецкага ўраду будзе залежыць: узмацаваць сымпатыі беларускага народу да Нямеччыны, ці гэтые сымпатыі і вочы народу павярнуць у другі бок, што магло-бы аказацца мала карысным для нямецкіх інтарэсаў.

Калі беларускае пытаньне цікавіць нямецкую палітыку, дык мы выстаўляем гэткіе нашы жаданьні:

1. Мы просім прызнаць незалежнасьць Беларусі, а такжэ прызнаць уласьць Рады і яе міністэрства.

2. Мы просім устанавіць такіе адносіны мясцовай нямецкай уласьці, каб наш урад меў магчымасьць арганізаваць свае сілы дзеля абняцьця пад сваю ўласьць такжэ ўсходняй часьці Беларусі, занятай цяпер большэвікамі.

Адначасна мы просім аб захаваньне ў незачэпным стане прыродных, эканамічных, нацыянальных і гістарычных граніц Беларусі, а ў тым ліку прызнаць за Беларусьсю Гродненшчыну, бассэйн Прыпяці і места Вільню.

# Беларусь і Расея.

У справах, ад каторых залежыць мо' ўся далейшая будучына нашага народу, учуцьцё — благі райчы. Наадварот: тут патрэбна толькі развага, толькі халодны розум, каторы адзін можэ разьвязаць аснаўные пытаньні нашага быту, узіраючыся не на мімалётнае настраеньне, а на запраўдные інтарэсы і патрэбы нашага народу і Краю.

Здаўна між маскоўскай і польскай інтэлігэнцыей на Беларускай зямлі ішла конкурэнцыя на грунці дэнацыяналізацыі беларусаў: маскалі стараліся абертаць нас у маскалёў, палякі—ў палякоў, ды як адны, так і другіе ўсімі магчымымі і немагчымымі спосабамі нішчылі ўсё спрадвечна беларускае. Цяпер, калі настаў гістарыч-

ны мамэнт адбудовы палітычнай незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, маскалі і палякі аб'явілі нашым незалежнікам такую-ж вайну, як колькінадцаць гадоў таму назад беларускім адраджэнцам, і пад той час, як палякі з безнадзейнасьцю ўгледаюцца на новабудаванае Польскае каралеўства і ажно сіпяць ад злосьці, што Беларусь аб'явіла разарванай старую унію с Польшчай, маскалі карыстаючы с пладоў старой палітыкі абмаскоўленьня беларусаў, спэкулююць на нацыанальнай забітасьці нашага народу і на насьледках тэй цемры, якую шырыла маскоўская казённая «прасьвета».

Дзіва німа, што маскалі за час векавога панаваньня над нашым народам прывыклі глядзець на нас, быццам на сваю ўласнасьць, быццам на сваіх *рабоў*. Але сумна тое, што яны здалелі ўбіць шмат каму з абмаскоўленых, хоць і чыстакроўных беларусаў падобны-ж дзікі пагляд: такім абмаскоўленым беларусам здаецца, што *стан рабства* для нашага народу—*зусім нормальны*, што без чужацкае нагайкі, без маскоўскага вурадніка мы жыць не здалеем!

„Вось,—кажуць яны, — вы хочаце, каб Беларусь была *незалежнай* дзержавай. Але як-жэ яна будзе жыць *без Расеі?*“

І далей ідуць без канца збанкроціўшыеся за гэту вайну ўжо да канца старые славянафільскіе гутаркі аб „брацтве славянаў“, каторые с такім смакам білі адны адных чуць не на ўсіх ваенных фронтах, аб „славянскай сям'і“, уславіўшайся тым, што дужэйшые „браты“ сто гадоў катавалі сваіх „меншых братоў“, і т. д.

На пытаньне: «як мы будзем жыць без Расеі?» мы можэм адказаць так сама пытаньнем: а як-жэ мы без яе жылі сто з нечым гадоў таму назад? А як жыла Сэрбія і Чорнагорыя, як жыве і красуе Боўгарыя, каторая не ўбаялася падняць аружжэ проці свайго «старшага брата»—Расеі, памагаўшай сэрбам абрабаваць боўгарскі народ, калі ён быў абязсілен пасьля крывавай барацьбы с туркамі за волю ўсіх Балканскіх славянаў?..

Толькі вельмі наіўные людзі могуць верыць, быццам Расея, забіраючы пад сябе славянскіе землі, папраўдзі думала калі-колечы аб утварэньні вольнай і сільнай «славянскай сям'і». «Зьбіраньне славянаў» вялікарусамі мело на мэці адно ўзмацаваньне Маскоўшчыны, высмактываўшай усе сокі з «братоў» і стараўшайся вынішчыць усе адзнакі іх самабытнасьці ды абярнуць у маскалёў. Само сабой разумеецца, што ад гэтага магла быць карысьць адно маскалём, а ня тым, каго яны нішчылі. Вось жэ, калі падыйшлі часы разьвіцьця дэмакратызму па ўсім сьвеці і ў Расеі, адкрыты гвалт над слабейшымі «братнімі народамі» трэба было нечым прыкрыць, прыхарошыць. Тады маскоўскіе палітыкі выдумалі «славянафільскую ідэю»: яны пачалі даводзіць, што вольнае і незалежнае жыцьцё для «меншых братоў» — шкодна што яны толькі тады будуць шчасьлівымі, калі паддадуцца пад «апеку» вялікай і дужой Расеі,—і гэта ў тым самым часе, як усе жыхары Расейскай дзержавы былі падзелены на грамадзян «першага і другога сорту», як беларусам і ўкраінцам, «найбліжэйшым і найсэрдэчнейшым» сваяком маскалёў, было забаронено гаварыць, пісаць, друкаваць і маліцца ў роднай мове! Першые славянафілы ў Расеі былі, наагул, чорнасоценцамі і знайшлі прыхільны прыём адно толькі ў польскіх чорнасоценцаў, маніўшыхся вытаргаваць ад маскалёў дзеля апалячэньня беларусаў-каталікоў. Але ўсе іншые славянскіе народы далі ім дружны адпор: салодкіе словы маскоўскіх славянафілаў лішне ўжо напаміналі словы ваўкоў, якімі тые заклікаюць бараноў да свайго трыбуха!... Тады збанкроціўшуюся «славянафільскую ідэю» перэнялі ад чорнасоценцаў расейскіе лібэралы: яны асаладзілі яе яшчэ харашэйшымі славамі, перэфарбавалі пад лібэральны тон і нават пачалі цішком—але так, каб не пачуў гарадавы!—гутарыць аб аўтаноміі паняволеных народаў. Аднак, і яны ня мелі ўдачы; с-пад авечай скуркі хутка заблішчэлі воўчые зубкі, —і калі ўкраінцы першые адкрыта заявілі, што яны гатовы належаць да Расейскай фэдэрацыйнай дзержавы, але толькі як палітычна незалежны арганізм, тварцы «нова-славянства» падняли страшэнны крык і кінулі на ўвесь украінскі рух пракляцьце, закляймі́ўшы яго імем адшчапенства, здрады, «мазэпінства».

Учасьце ў вайне боўгараў, выступіўшых проці Расеі; адбудова Польшчы.. немцамі, пасьля таго, як Расея суліла ёй адно толькі курта́тую аўтаномію; прызнаньне цэнтральнымі дзержавамі незалежнасьці Украіны пад той час, як большэвікі, на славах прызнаўшые права народаў Расеі на самаазначэньне хоць-бы ў форме поўнага аддзяленьня ад Расейскай дзержавы, стараліся крывёй затушыць украінскі незалежніцкі рух,—усе гэтые факты з найнавейшага часу павінны паказаць нават і сьляпому, што народы ў сваей палітыцэ кіруюцца не сымпатыямі, не блізкасьцю па крыві, не гістарычнымі традыцыямі, а *выключна сваей карысьцю*. І толькі правільным зразуменьнем свае нацыанальнае карысьці могуць і павінны кіравацца беларусы ў той незвычайна важны гістарычны мамэнт, калі перад імі адкрываецца магчымасьць самым наладзіць сваё жыцьцё. Толькі тады, як мы ўжо створым сваю *незалежную дзержаву*, мы можэм у меру патрэбы пашукаць сабе саюзьнікаў, але пры гэтым наш выбар павінен быць зусім вольны ад уселякіх пустых і фальшывых ідэй аб «славянскай еднасьці», якой ніколі не — было, нема і, трэба думаць, ня будзе.

Расея, падпісываючы берасьцейскую ўмову, разарваўшую жывое цела нашага народу на дзьве часьці, дала яшчэ адзін доказ таго, што аб карысьці і жыцьцёвых патрэбах беларускага народу яна зусім ня думае. Большэвікі ў гэтым ані не адыйшліся ад старой ідэолёгіі царскай Расеі. І калі беларусы, шукаючы сабе саюзьнікаў, ня выцягнуць свае рукі на Усход, дык у гэтым будуць вінаваты тые нашы «старшые браты», якіе заўсёды цікавалі і цікуюць на нашу нацыанальную пагібель.

*І. Мелешка.*

---

Георг Бэрнгард у «Voss. Ztg.» з 22.VII у стацьці «Das Problem der Stunde» піша:

«Пад карысьць Нямеччыны цяпер зусім не падыходзіць тварыць нешта аканчацельнае ані ў Балтыцкіх землях, ані ў Літве і ў Польшчы». Гэтые землі немцы занялі не дзеля таго, каб вызваліць тамтэйшые народы, а толькі дзеля ўтварэньня з іх абароннага валу проці ворагаў. Іх доля залежыць ад таго, ці нямецкая палітыка здалее забаспечыць свае інтарэсы на Усходзе на аснове прыязнай конвэнцыі З Расеей, ці немцы будуць прымушэны дзеля абароны гэных інтарэсаў пашырыць свае граніцы с чыста ваеннага пагляду. «Аднак, будучыну ўсходніх краёў трэба ў кожным здарэньні ладзіць выключна ўзіраючыся на інтарэсы будучага разьвіцьця Нямецкае дзержавы».

---

## Беларускі Унівэрсытэт.

С таго часу, як расейскі ўрад закрыў віленскі унівэрсытэт, наш край безмала сто гадоў аставаўся без вышэйшай школы. Уся наша моладзь, скончыўшы навукі ў сярэдніх школах, дзеля далейшага вучэньня была прымушэна ехаць у глыб Расеі, у Польшчу, або заграніцу — да чужых людзей, чужых народаў. Хто меў магчымасьць вучыцца ў заграгічным унівэрсытэці, той найчасьцей не прападаў для свае Бацькаўшчыны і свайго народу: заграні чнае жыцьцё лішне рэзка рознілося ад нашага жыцьця, і разлука з родным краем была вельмі балюча, а Бацькаўшчына так крэпка цагнула да сябе... Але тые, хто ехаў у Маскоўшчыну ці ў Польшчу, цэлымі масамі аставаліся ўжо там на ўсё жыцьцё, бо дома для іх места не было: тут царскі ўрад насылаў тысячы чужынцаў, верных сваіх слуг у нішчэньні самабытнасьці Беларусі.

Яшчэ за некалькі гадоў перад вайной у нашым краю пачалася работа дзеля адкрыцьця ў нас

---

*Францішк Олехновіч.*

# На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 60).

МАНЬКА.

Ну, дык ліманады...

ПЯРОВІЧ.

Гэта магу! — (Манька ўстае). Чэкай! Ня йдзі! Хлапец прынясе! (клічэ): Хлапец! Гоп! гоп! (Да Манькі): Ты маеш пекную душу, Манька! Ты здаволена абы чым!... Ты філязофка! Ты... ты... Сократэс у спадніцы.

КЭЛЬНЭР (уходзіць).

ПЯРОВІЧ (да кэльнэра).

Ліманады для мае каралеўны!

(кэльнэр выходзіць).

ПЯРОВІЧ.

Сократ — бачыш — напіўся цыкуты і зюкаў с сваімі вучнямі, седзючы на ложку...

МАНЬКА.

Хто? чаго напіўся?

ПЯРОВІЧ.

Бачыш, — Сократ—філязоф напіўся цыкуты, сеў на ложку, падпёршы бараду і зюкаў с сваімі вучнямі... (апошніе словы гаворыць плаксьлівым голасам, гледзючы на зьявіўшагася ў дзьверах рэстарану кэльнэра).

КЭЛЬНЭР.

(паказывае знакамі, што гаспадар не дае ўжо больш на павер).

МАНЬКА.

Ды чаго-ж ты нюніш? Табе-ж ніхто не дае ніякае цыкуты, а п'еш піва!

ПЯРОВІЧ.

(паказывае рукой на кэльнэра).

Але ён.. ён кажэ, што гаспадар не дае бяз грошы нават ліманады... (я. в.) зюкаў бачыш, а пасьля лёг (кладзецца) і заснуў сном вечным...

МАНЬКА

(тузаючы яго).

Пачэкай, не кладзіся! гаспадар прыйдзе будзе крычаць.

ПЯРОВІЧ.

Хай крычыць — не ўстану!.. (дэклямаітарскім тонам): Рашчыні нада мной, Манечка—анёлачак, свае белые скрыдлы і хай засну пад іхнім ценям.

МАНЬКА.

Якіе скрыдлы? Я не маю ніякіх скрыдлаў!

ПЯРОВІЧ.

Не маеш скрыдлаў? Гэта дзіўна!

МАНЬКА.

Ну, уставай, уставай. Калі так вельмі спаць хочэш, дык ідзі ў габінэт на верх, там ёсьць канапа, там засьнеш і ніхто цябе не пабачыць!

ПЯРОВІЧ.

Справядліва кажэш, як Салямон, мая ты Манечка! (абнімае яе і выходзіць з ёю).

МАНЬКА.

Ідзі ужо! ідзі!

**З'ява 6.**

МУЗЫКІ, пасьля РАФАЛ.

МУЗЫКІ

(уходзяць, седаюць пры адным з апошніх сталоў ладзяць свае інструмэнты).

РАФАЛ (уходзіць).

А! музыкі прыйшлі! — добра!

МУЗЫКІ

(кланяюцца Рафалу).

РАФАЛ.

Ну, можэ выпілі-б чаго?

І) МУЗЫКА.

А ня шкодзіло б, панок, бо гарачыня, ўмарыліся.

РАФАЛ

(гаворэ ў дзьверы).

Міхалка! поў бутэлькі гарэлкі і некалькі бутэляк піва! Добра, што прыйшлі, бо сягоньня спадзеваюся шмат гасьцей.

II. МУЗЫКА.

Сягоньня першая нядзеля, што падобна да нядзелі, бо дагэтуль усё быў дождж ды дождж.

РАФАЛ.

Але. Пагода пекная! А ў дадатку сягоньня тут рамесьніцкая маёўка..

**З'ява 7.**

ТЫЕ-Ж і МАНЬКА (уходзяць).

РАФАЛ (да Манькі).

Дзе Пяровіч?

МАНЬКА.

Пайшоў у габінэт, сьпіць на канапе. Хацеў спаць тутака ў садзе, а я яго палажыла ў габінэце.

РАФАЛ.

Добра. А бяз грошы ўжо болей яму не даваць, бо і так шмат узяў на павер і нема ведама, калі аддасьць.

МАНЬКА.

Гэта-ж пастаянны госьць!

РАФАЛ.

З гэтымі пастаяннымі найгорэй. Ен пастаянны, пакуль не на бярэ на павер, а пасьля яго і не пабачыш! (чуваць сьвісток парахода) О! параход ідзе!

І МУЗЫКА.

Заіграйма на павітаньне. (стаяць каля плоціка і граюць).

(Далей будзе).

унівэрсытэту, або іншай вышэйшай школы. Аднак, усе стараньні нічога не дайшлі: дарэмна была праца, дарэмна ўсе вялікшые гарады Беларусі—Вільня, Менск, Вітэбск і інш.—сулілі вялікіе грошы на патрэбы краёвага ўнівэрсытэту. І толькі цяпер, калі Беларусь вызвалілася с-пад маскоўскае апекі, адкрылася магчымасьць утварэньня беларускага ўнівэрсытэту, які мае быць адкрыт у Менску.

За гэту справу энэргічна ўзяўся вядомы працаўнік на ніве беларускай гісторыі, праф. Доўнар-Запольскі. Як нам наказываюць, пр. Доўнар-Запольскі забаспечыўся згодай выкладаць у беларускім унівэрсытэце 36 прафэсароў беларусаў.

Мы шчыра вітаем гэту важную работу, якая будуе фундамэнт нашае культурнае будучыны. І хоць сьперша ўнівэрсытэт у Менску будзе карыстацца дзеля чытаньня лекцый яшчэ перэважна расейскай мовай, мы верым, што ў хуткім часе ён станецца беларускім ня толькі па духу, але і па мове каторая ў сваім безупынным разьвіцьці ўжо дайшла гэткай вышыні, што можэ высказываць самые тонкіе адценкі чэлавечае думкі. І наша беларуская прафэсура шыбка здалее прайсьці эвалюцыю мовы, а новые пакаленьні маладзежы, акая ўжо вучыцца ў беларускіх гімназіях будуць атрымліваць і вышэйшую навуку ў *сваім* унівэрсытэці па беларуску.

Г. Б.

# У Вільні і ваколіцах.

× **Кватэры старажоў.** Кватэры віленскіх дамовых старажоў — так званых з расейскага «дворнікаў» — ужо даўно ўзываюць аб помсту да неба. Толькі ў лічэных дамох ім даюць болей-менейш адпаведнае памяшчэньне, — але перэважная часьць іх — гэта нейкіе падземные лёхі, з ваконцэм нейдзе пад самай стольлю, выходзячым **ніжэй паверху зямлі**, куды ніколі не загледае сонцэ, дзе ў страшэннай вільгаці людзі зажыва гніюць і дзе маюць выгоднае гняздо ўселякіе заразьлівые хваробы с сухотамі наперадзі. І ў такіх лёхах — часам у камяніцах эўропэйскага віду — плодзяцца і паміраюць цэлые пакаленьні людзей...

Некалі — на колькі гадоў перад вайной у Вільні нехта заняўся аглядам старажоўскіх кватэр. Рэзультаты аказаліся страшэнные. Аб гэтым многа пісалі ў газэтах, многа гаварылі, ды спадзеваліся што доляй гэных бедакоў займецца нашэ мястовае самаўпраўленьне. На жаль, віленская дума заўсёды складалася с тых самых камянічнікаў, каторые стварылі тые дзікіе варункі для сваіх старажоў — і справа скончылася нічым. Гэтак і па сягоньняшні дзень асталося.

Прынімаючы пад увагу, што за час вайны народ у нас страшэньне абязсілеў, што даражыня апалу не дае, як сьлед, агрэваць падземных старажоўскіх лёхаў, што гэтак вытварыўся незвычайна падатлівы грунт дзеля пашырэньня ўселякіх заразьлівых хвароб, — закранутая намі справа мае вялікую вагу дзеля аздараўленьня ўсяго нашага места і вымагае сур'ёзнай увагі грамадзянства.

× **Беларускі Камітэт п. п. ад в.** выдаў за месяц ліпень дармовых абедаў: праз Беларускую Народную Страўню—1990, праз іншые страўні—624, а ўсяго—2.614 абедаў.

× **Данные аб кватэрах.** Дамаўласьнікі і іх упраўляючые з вуліц, назовы каторых па нямецку пачынаюцца літэрамі
E павінны явіцца ў панядзелак,
F „ „ ў аўторак,
K павінны явіцца ў сер. і чэць.
H „ „ ў пятніцу,
I і J „ „ ў суботу
ў пакой 49 у Stadthaйptmanna і даць адказ на статыстычные пытаньні аб іх дамох, кватэрах і іх жыхарах.

× **Таргоўля з Усходам.** Даваць заказы на тавары ў межах новай окупацыі і наагул у Расеі можна толькі цераз свайго Krejshaйptmanna (stadthaйptmanna), каторому трэба заяўляць, сколькі якога тавару трэба, а такжэ імя дастаўцы. Далейшые крокі ўчыніць Krejshaйptmann (Stadthauptmann). Атрымаўшы заказаны тавар, трэба аб гэтым заяўляць у kresamcie, каторы разьбірае, якіе тавары павінны ісьці на пункт збору сырцоў (Rohstoffstelle) і якіе тарговец можэ свабодна прадаваць цывільнаму насяленьню. За спаўненьне гэтых загадаў тавары падлегаюць конфіскацыі.

× **Дармовые карты на хлеб** жонкам запасных на месяц верасень будуць выдавацца ў пакоі 143 у Stadthauptmanna, Дамініканская 2, у ніжэйпісаные дні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| для 4 | цыркулу | — | 8 і 9 жніўня |
| „ 6 | „ | — | 9 і 10 „ |
| „ 7 | „ | — | 10 і 12 „ |
| „ 8 | „ | — | 12 і 13 „ |
| „ 1 | „ | — | 14 „ |
| „ 5 | „ | — | 16 „ |
| „ 3 | „ | — | 17 „ |
| „ 2 | „ | — | 19 „ |

Хто ня возьме сваіх карт у гэтые дні, можэ атрымаць іх яшчэ 20 і 21 жніўня. Карты даюць права ня толькі на хлеб, але і на бульбу і іншые спажыўные прадукты.

× **Здача гумы.** Stadthaйptmann апавешчае, што тэрмін здачы гум ад колаў прадоўжэн да 1 верасьня 1918.

× **Дамы на дровы.** У Бюро VIII цыркула камісіі апекі над пакінутымі дамамі 8 жніўня адбудзецца публічная лiцытацыя дрэўляных дамоў, назначэных на разборку.

× **Неразарваўшая міна.** Начальнік Упраўленьня Літвы апавешчае што 19 ліпня чацьвёра тутэйшых жыхароў пайшлі на поле пробы мін і прабавалі зьняць медную галоўку неразарваўшайся міны. Пры гэтым яны былі ранены, і адзін з іх памёр ад ран у той-жэ дзень. Хадзіць у межы пробнага поля забаронено, а чэпаньне неразарваўшыхся мін небаспечно для жыцьця.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 1 — 2 | + 19,4° | + 13,4° |
| 2 — 3 | + 17,1° | + 13,1° |
| 3 — 4 | + 19,1° | + 13,0° |
| 4 — 5 | + 18,4° | + 11,3° |

# З усяго Краю.

### Аб пасад Літвы.

Орган нямецкага ўраду „Nordd. Allg. Ztg." у нумэры с 4 жніўня заяўляе паміж іншым:

„Нарада так-званай «дзержаўнай рады» адбывалася пры зачыненых дзьвярах. Нямецкі ўрад нават ня ведаў, якая гэта «дзержаўная рада». Цяпер выясьнілося, што «дзержаўная рада»—гэта паменшэная Літоўская Тарыба. Невядомы і падробнасьці галасаваньня. Адным словам, уся інсцэнізацыя акту не выказывае лояльнай ахвоты лічыцца з законнымі інтарэсамі нямецкага ўраду. Літвіны заяўляюць, што жаданьне членаў Літоўскай Тарыбы вясьці перэгаворы ў Бэрліне у красавіку аб конвонцыях было адкінуто. Гэтага нельга было абмінуць, бо падгатавіцельные работы яшчэ не былі законвэны. Нямецкі ўрад у справе кандыдата на літоўскі пасад пакідае сабе поўную свабоду. Ян дзержыцца таго пагляду, што перад развязкай пытаньня аб монарху трэба ўладзіць адносіны між Нямеччынай і будучай Літвой. Мы можэм цяпер заявіць, што падгатоўка конвэнцый ў Бэрліне гэтулькі пасунулася ўпярод, што яны будуць закончэны ў будучым тыдні і што можна будзе пачаць перэгаворы з літоўскімі прэдстаўнікамі. Калі, як трэба спадзевацца, перэгаворы пойдуць шыбка і ўдачна, дык можна будзе прыступіць і да разьвязкі пытаньня аб пасадзе».

### Ваеннае губэрнатарства.

Паводлуг найвышэйшага загаду, 1 жніўня Літва разам з округам Аўгустоў-Сувалкі і ваеннымі лясьніцтвами Белавеж—Беласток—Гродня аб'яўляецца ваенным губэрнатарствам, каторым упраўляціме ваенны губэрнатар, жывучый у Вільні. За ваеннага губэрнатара назначэн генэрал ф. Гарбу.

Этапная інспэкцыя 10. распускаецца.

### Водная дарога з Балтыцкага ў Чорнае морэ.

На перэгаворах між нямецкай і ўкраінскай камісіей ў Кенігсбэргу намэчэны дзьве лініі дзеля воднай дарогі з Балтыцкага да Чорнага мора: Днепр-Буг-Днепра-Бугскі канал — Вісла і Днепр—Огінскі канал — Нёмам. Апрыч таго падняўся праект ругуляцыі заходняе Дзьвіны да самай Рыгі. Украінскі ўрад зажадаў часу дзеля акуратнага разгляду гэтых праектаў.

---

ГОРАДНЯ. Новая такса для рамізьнікаў устаноўлена гэткая:

У горадзі за язду да 20 мін.— 1 м. 20 ф., да 45 м.—3 маркі; у начы (ад 10 г. веч. да 5 г. раніцы) даплачываецца 1 марка за кожны праезд. Першые 25 клгр. багажа вязуцца без ніякае даплаты, а за каждые далейшые 25 клгр. або часьць іх трэба даплачываць 1 марку.

Бедным жыхарам вапну дзеля дэзынфэкцыі адходжых месц і рынштокаў даюць у паліцыі дарма.

Гетымі днямі с тутэйшага вар'яцкага дому ўцёк хворы, у каторага ў кішэнях, злавіўшы, знайшлі многа рэчаў, украдзеных с кішані другіх, у тым ліку 16 ножыкаў.

БЕЛАСТОК. Тут, у прадмесьці Беласточак і ў дварэ Дойліды пачала хварэць скаціна ад нейкай хваробы лёгкіх. Хворая скаціна пачынае кашляць, ня есць і не дае малака. Пасьля ў яе робіцца астма, і яна бельмі спадае с цела. Блізка палавіна хворай скаціны здыхае.

ШЫПЛІШКІ. У часе нябытнасьці гаспадара і яго сям'і, выехаўшых да касьцёла, пярун ударыў у іх хату. У адзін мамэнт згарэлі ўсе будоўлі з усенькім дабром.

СВЕНЦЯНЫ. Ад 1 жніўня тут пачала свае чыннасьці пачтовая кантора.

ВІЛЬКАВІШКІ. Да гаспадара Войцінаса ў начы залез пад страху работнік Кайрыс і ўкраў стуль саланіну, шынкі і шмалец Пры гэтым ён згубіў тамака свой пашпарт. Назаўтрае прыйшла да яго паліцыя і зрабіўшы рэвізію, знайшла большую часьць украдзеных прадуктаў.

ЕЛЕНЕВО. У тую суботу тут згарэла малачарня. Пажар узьняўся ад іскры с коміна, запаліўшай саламянную страху.

СУВАЛКІ. Селяне с тутэйшых ваколіц маюць вельмі благую прывычку падліваць да свайго малака каля 50% вады і прадаваць гэну мешаніну, як «сьвежае малако». Было некалькі прыпадкаў аддачы гэткіх селян пад суд.

КОУНА. 22 ліпня прапала Элеонора Езэфовіч, 15 гадоў, жыўшая пры вастрожнай вуліцы. Папярэдніе ночы яна начавала ў дворніка Пашкоўскага пры тэйжэ вуліцы, і с таго часу яе ніхто больш не бачыў.

РЫГА. Ваенна-палявы суд двойчы засудзіў на сьмерць б. расейскага салдата Страчэнко і работніка Сальміна, а расейскіх салдатаў Пруднікова і Шылёва на 10 гадоў у папраўчы дом і работніка Турчына на 5 гадоў. Пямянутые людзі вінаваціліся ў учасьці ў разбойніцкай напасьці на шынок у Вэндэльскім павеці.

РЭВЕЛЬ. 10 жніўня на вэрфі Бэкер і Комп. будзе спушчэн на ваду ледакол у 3 200 тонн дзеля ачысткі ад лёду ўзьбярэжных балтыцкіх вод.

# Украіна.

КІЕУ. Прэзыдыум нацыанальнага саюза украінскіх партый высказаў нямецкаму паслу Мумму абурэньне ўкраінцаў с прычыны абойства фэльдмаршалка Эйхгорна. Ліхадзейства гэтае — бязспорна работа маскоўскіх рук.

КІЕУ. С прычыны забойства фэльдмаршарка Эйхгорна дэлегацыя соцыалістаў-фэдэралістаў высказала сваё абурэньне ліхадзействам перад нямецкім паслом Муммам. Падобную-ж заяву зрабіў галава расейскай мірнай дэлегацыі ад імі савецкага ўраду і большэвікоў.

КІЕУ. 1 жніўня над труной Эйхгорна адбылося набажэнства, на каторым былі гэтман з жонкай і сьвітай і ўкраінскіе міністры з міністрам-прэзыдэнтам Лізогубам, а такжэ прэдстаўнікі Крыму і донскіх казакоў. У часе перавозкі цела фэльдмаршалка Эйхгорна на вагзал наперадзі паходу ехаў украінскі эскадрон.

Гэтман Скоропадскій выдаў адозву да ўкраінскага народу, адзначываючы вялікі сум украінцаў с прычыны забойства фэльдмарш. Эйхгорна, імя каторага назаўсёды будзе запісано на страніцах гісторыі.

Работніцкая газэта пішэ: «Толькі ворагі ўкраінскай дзержавы маглі памкнуцца на гэткае ліхадзейства».

«Кіевск. Мысьль» кажэ, што ўкраінскі народ не стаіць за плячыма забойцаў.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

МАСКВА. Народны камісарыат дзеля барацьбы з контррэвалюцыей выкрыў змову проці Леніна і Троцкага. З гэтай прычыны Ленін паказываецца толькі пад ахранай, і на вуліцах, па якіх ён праходзіць, стаўляюць войска.

У Холмогорах выкрылі контррэвалюцыйную арганізацыю. Большэвіцкі ўрад у Енісейску скінут соцыал-рэвалюцыанерамі.

Дэкрэтам народных камісараў у Расеі заводзіцца агульная ваенная павіннасьць для мужчын ад 18 да 40 гадоў.

Бюро прэсы народных камісараў наказывае, што в. кн. Міхаіл Романов апублікаваў маніфэст аб павароце ладу ў Сібіры. Сібірскі ўрад вядзе перэгаворы с Францыей і Амэрыкай.

„Ізвестія" наказываюць, што остраў Мудюк, перад Архангельскам, занят саюзьнікамі пасьля абстрэлу англіцкімі крэйсэрамі. Савецкіе войскі адыйшлі ў Архангельск. Англіцкіе самалёты робяць разьведкі ўздоўж Мурманскай чыгункі.

У Ніжнім Ноўгарадзі арэштованы 500 польскіх легіанераў, маніўшыхся перэбрацца на чэха-славацкі фронт.

